БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ–CHURCH NEWS

**BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH**

Published by Parsh of St. Kiryla of Turau

524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025

Год. 14 Вялікдзень, 1995 1(52)

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!**

«Ведаючы, што Хрыстос, уваскросшы
з памерлых, болей не памірае;
сьмерць ня мае над Ім улады»
(Рым. 6:9)

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры!

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

Ці ёсьць іншыя словы, каб былі гэтак блізкія й пацяшаючыя для нас, беларусаў? І ці ёсьць часіна ў годзе, каб можна было мець такую меру спадзяваньня на вечнае жыцьцё, як на Вялікдзень — у падзеі крыжовай сьмерці і ўваскра-сеньня зь мёртвых Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста? Бо ж сёньня мы прамаўляем словамі малітвы: «Ты, Госпадзе, што на крыжы пакутаваў і сьмерць зьнішчыў і ўваскрос зь мёртвых, супакой нашае жыцьцё, бо Ты —адзіны Ўсемагутны» (*вялікодная сьціхіра на Хваліце*). Канчатковая перамога Госпада наша Ісуса Хрыста над сьмерцяй, дарагія мае, дае і нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25). Мы радасна ўсклікаем разам з Янам Залатавусным: «Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога? Хрыстос Уваскрос, і палі чэрці! Хрыстос Уваскрос, і цешацца анёлы! Хрыстос уваскрос, і памерлых няма ў магіле! Хрыстос Уваскрос з памерлых і стаўся Першым для ўсіх памерлых» (Вялікоднае слова Яна Залатавуснага).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, хварысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. А добра ведаць значэньне гэтай падзеі. Гэта сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (1Ян 5:4). Сёньня сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы жывем у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асабліва нам трэба мець прад вачыма жыцьцё сьвятых, і браць іх за прыклад, мець моцную веру ў Бога, вялікую сілу вытрываласьці, каб нашая сьвятая Беларусь уваскросла й сапраўды сталася свабоднай, незалежнай.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынціянаў кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша, Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі чысьціні і праўды» (1Кар. 5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста.

«Мір вам» — абвяшчае Хрыстос апосталам, увайшоўшы праз «зачыненыя дзьверы» і паказваючы раны на руках і рэбрах ад цьвікоў. А вучні ўсьцешыліся, як пабачылі Госпада, і зноў пачулі: Мір вам! Як Мяне паслаў Айцец, і Я пасылаю вас» (Ян 20:21).

Дарагія мае служыць Богу — гэта служыць свайму народу. А каб належна служыць народу, трэба любіць свой народ, ведаць ягоную гісторыю, ягоную культуру, трэба мець непахісную й моцную веру ў Бога й верыць свайму народу. Але словамі мы ня можам выявіць веру, як сьв. апостал Якуб кажа: «Вера, калі ня мае ўчынкаў, мёртвая сама ў сабе» (Як. 2:17). Не ўцякайце ж і не пакідайце Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабрародных намаганьнях, каб Царква была свая й служыла свайму народу.

Аднак наша радасьць гэтага сьветлага дня уваскрасеньня Хрыстовага ня будзе поўная й дасканалая, калі яна ня будзе мець за сабою падтрымкі ў кожнага з нас узаемнай любові й шчырага братэрства. І няхай ня будзе паміж намі нічога таго, што разлучала б нас, бо мы — адзін беларускі народ.

Любасныя мае! Якое вялікае дабро й шчасьце ў тым, што Бог удастоіў нас быць беларусамі й быць дзецьмі Ягонае Хрыстовае Царквы, у якой мы становімся такімі блізкімі Уваскрэсламу Госпаду, дзе мы здабываем ратунак у смутку й паўнату ў Сьвятым Духу.

Няхай жа кожны з нас, зь вераю і ў поўным перакананьні належна й непаслабна, добраахвотна ўжо дзейнічае, нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах усе вернікі з удзячнасьцю Богу славілі уваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднаго абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах жыцьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія мае, слаўныя й мілыя Суродзічы, вітаю:

ХРЫСТОС УВАСКРОС
— САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень 1995 году

архіяп. МІКАЛАЙ
Мітрапаліт БАПЦ

## УКРАІНСКА ЦАРКВА Ў ЗША

Як падае ВІСНЫК за красавік 1995 году, часапіс-месячнік орган Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Канадзе, што Украінская Праваслаўная Царква ў ЗША і УПЦ Цэрквы ў Дыяспоры, якія ачольвае Мітрапаліт Канстанцін падыйшлі пад апеку Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха Барталамея Першага. Урачыстасьць суполнасьці адбылася 12 сакавіка 1995 г.

У Нядзелю Праваслаўя, у першую нядзелю Вялікага Посту ў Канстантынопалі, у Птрыяршаму Саборы Сьв. Юрыя Пераможца, дзе разам з Усяленскім Патрыярхам Барталамеем, саслужылі Сьв. Літургію Мітрапаліт Канстанцін, Першы Ярарх УПЦ у ЗША і УАПЦ у Дыяспоры з украінскімі япіскапамі: Архіяпіскапам Антонам, Япіскапам Паісыем, Япіскапам Янам, Япіскапам Ераміем.

На ўрачыстасьці былі прысутныя сорак прадстаўнікоў з украінскага царкоўнага кіраўніцтва: сьвятароў і міранаў.

У паведамленьні падана, што УПЦ ў ЗША затрымала за сабою ўсе правы, якія былі да 1586 году, калі Маскава пакарыла яе пад сваю ўладу.

Пяць гадоў таму, першага красавіка 1990 г. украінскае прадстаўніцтва на чале з япіскапам Юрыем і а. др. Сьцяпанам Ярмусам ад Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Канадзе служылі Сьв. Літургію разам з грэцкімі япіскапамі й сьвятарамі й прычашчаліся з аднае чары, у тым самым патрыяршым саборы Сьв. Юрыя ў Канстантынопалі. Сам Патрыярх Дзімітры Першы не саслужыў, але быў прысутны на Службе. Віснык, ліпень, 1990 г. бач. 3.

18 Сабор УПЦ у Канадзе, які адбыўся 2 да 8 ліпена ў Вінніпегу зацьвердзіў літургічнае яднаньне Ярархіі УПЦ у Канадзе з Канстантынопальскім Усяленскім Патрыярхатам. Віснык, жнівень, 1990 г, бач. 1.

Пасьля зацьверджаньня Саборам, была абнародавана патрыяршая грамата (Томас) Усяленскага Патрыярха Дзімітрыя Першага, пра прыняцьцё пад свой амафор УПЦ у Канадзе ў стане так, як яна ёсьць: са сьвятарствам і статутам, значыць са сваім унутраным мясцовай царквы правам. Віснык, жнівень, 1990 г. бач. 3.

**ЗАЎВАГІ:** Цяпер уся украінска праваслаўная Дыяспора знаходзіцца пад **амафорам** Усяленскага Патрыярха.

**У 1997** годзе адбудзецца Восьмы **Усяленскі Сабор** Праваслаўнай Царквы. **І якраз цяпер** тут ідзе спаборніцтва Маскоўскага Патрыярхату з Усяленскім Канстантынопальскім Патрыярхатам. Масква стараецца заўладзець правамі Канстантынопальскага Патрыярхату. Масква надала аўтакефалію Праваслаўнай Царкве Амэрыкі, былшай расейскай Амэрыканскай Мітраполіі ў ЗША. Канстантынопальскі Патрыярхат не прызнаў гэтую дзею Маскоўскага Патрыярхату, прыпамінаючы яму, што справа наданьня аўтакефаліі належыць выключна Канстантынопальскаму Патрыярху. Напэўна й гэтая справа будзе пастаўлена на саборы ў 1997 годзе.

Уваход Украінскіх Праваслаўных Цэркваў пад Канстантынопальскі Патрыярхат мае тры накіраваньні: а) Быць у асяродзьдзі Сусветнай Праваслаўнай Царкве, ня быць адаасобненай ад Усяленскай Праваслаўнай Царквы й яны будуць запісаны ў гісторыі Праваслаўнай Усяленскай Царкве на векі, што Ярархія Украінскай Праваслаўнай Царквы была прысутная на Восьмім Усяленскім Саборы 1997 году. А гэта ёсьць вельмі важна; б) Украінская Праваслаўная Царква дасьцю поўную падтрымку Канстантынопальскаму Патрыярхату ў спаборніцтве з Масквою на Восьмім Усяленскім Саборы 1997 году. в) Украінцы маючы паважны голас на Саборы, атрымаюць Аўтакефалію для Украіны, чаго Масква вельмі баіцца. Гэта ўжо заўважна, што цэрквы, якія блізка стаяць да Масквы, хоць не запярэчваюць, аднак устрымана халодна ставяцца да Украінскай Праваслаўнай Царквы пад Канстантынопальскім Патрыярхатам.

### ЯК НАШАЯ СПРАВА?

Нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква поўнасьцю адаасобнена ад Праваслаўнай Царквы, ад усяленскасьці.

Нашая Царква падзелена, нам усімі сіламі, абавязкова трэба шукаць шлях да аб'яднаньня й то не марудзіць.

Архіяпіскап Мікалай згодны на перамовы. Ён будзе ў Гайленд Парку 21 травеня 1995 г. і просіць Ізаслава Першага Ярарха другой часткі БАПЦ навязаць лучнасьць на першыя перамовы пра аб'яднаньне. Архіяпіскап Мікалай кажа, што ён ня мае адрасу Ізаслава.

Пасьля аб'днаньня, магчымя й нам прыдзецца ўвайсьці ў малітоўнае саслужэньне з Канстыантынопальскім Патрыярхатам.

### ПАСЬМЕРТНАЯ ЗГАДКА

20 сакавіка 1995 году на 76 годзе жыцьця у госпіталі ў Таронта, памёр Рыгор Беразоўскі. Ён паходзіў з Любанскага раёну. Бацькі ягоныя былі арыштаваныя бальшавікамі. Яму прыходзілася скрывацца. У часе вайны выехаў на захад. У Нямеч-чыне ажаніўся з Антанінай. У Канаду прыехаў 1950 годзе і пасяліўся ў Таронта. Праз увесь час быў дзейным у беларускім жыцьці. Ён належаў да парафіі Сьв. Еўфрасініі Полацкай у Таронта. Многа даваў ахвяраў грашыма й працай для гэтай парафіі. Ён, ніхто іншы, будучы старшынём БНА разам са старшынём ЗБК Антонам Маркевічам залажылі Каардынацыйны Камітэт, каб супольна сьвяткаваць нацыянальныя сьвяты.. Ён быў моцны беларус. Апошня ён належаў да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага і перад сьмерцю папрасіў уладыку Мікалая паспавядаць яго. Пахаваны на Royal York Cemetary ў Таронта. Ён аставіў у смутку жонку, дачку й сына з унукамі.

31 сакавіка 1995 году ў Лёндане, Ангельшчына памёр сп. Ян Міхалюк, даўгалетні грамадзкі дзеяч, бязперапынку з 1946 году. Амаль кожнагадова быў перавыбіраны старшынём ЗБВБ (Згуртаваньня Беларусаў у Валікай Брытаніі). Ён заставіў у смутку сваю жонку Лолю, два сыны з унукамі, а найбольш ён заставіў у смутку беларускую грамаду ў Вялікай Брытаніі. Няхай будзе яму ангельская зямля пухам.

Вечная памяць

### ГУКАЕМ ДА ВАС

Дарагія Суродзічы! Ужо праз некалькі гадоў, сп-ня Марыя Ганко ад парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага высылае пачкі дзецям і старажылым у Беларусь на арганізацыю Сакавік, якая раздае найбольш патрабуючым. Матарыял на высылку парафія дастае ад канадыйцаў, але перасылку парафія мае пакрыць сама. Просім вас, памажыце для парафіі, хто колькі мажа ў добрароднай дапамозе дзецям старыком у Беларусі. Ахвяры перасылайце на парафію зазначаючы: «Дапамога дзецам».

### ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Усіх вернікаў БАПЦ і нашых чытачоў вітаем з радасным сьвятам Вялікадня: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**Расклад Вялікодных Багаслужбаў**

16. 4. Вербная Нядзеля
10-я гадз. рана Сьв. Літургія
20. 4. чацьвер. Пакуты Госпадавы
6-я гадз. увечары чытаньне 12 Дабравесьцяў.
21. 4. пятніца. 3-я гадз. папаўдні.
Вынас Сьв. Плашчаніцы.
22. 4. сыбота. 9-я гадз. рана.
Вячорня са Сьв. Літургіяй
11-я гадз. перад поўначчу
Паўночня.

Адразу пасьля Паўночні пачынаюцца вялікодныя багаслужбы: Ютраня, Часы і Сьв. Літургія.

**УВАГА:** Тыя, што прыпазьніліся са споведзьдзю, змогуць паспавядацца на Вербную Нядзелю, у сыботу рана, у сыботу перад Паўночняй і ў часе перапынку паміж Ютраняй і Сьв. Літургіяй.